


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 ліпеня 2000 года
№ 29 (274)
Цана ў розніцу 76 рублёў

ТУ плюс

**Навіны рэгіёна**

## Дзеці з вёскі на чэмпіянаце свету

МЯДЗЕЛ. 4 вучні Сырмежскай СШ разам з настаўнікам фізкультуры Бярнардам Пакульніцкім з'ездзілі ў Польшчу. Бралі яны ўдзел у чэмпіянаце Еўропы і свету па рынга. Пра гэтую гульню з гумовым кольцам, чымсьці падобную на валейбол і вялікі тэніс, "РГ" пісала.

Удзельнікаў было шмат, нават прыехалі з Афрыкі, Манголіі, В'етнама. Найчасцей перамагалі ўсіх палякі, як–ніяк на польскай зямлі гэтая гульня і ўзнікла 40 год таму.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Лунапарк прыязджае



МАЛАДЗЕЧНА. Лунапарк "Прага" з чэшскага горада Вусце над Лабай пачынае свае гастролі ў Маладзечне 27–28 ліпеня (у залежнасці ад надвор"я). Прадоўжацца яны да 13 жніўня. Да гэтага чэшскія атракцыёншчыкі гастралявалі ў Наваполацку. Увогуле, з Беларуссю гэтае прадпрыемства знаёмае каля 5 год. Атракцыёны размесцяцца на Цэнтральнай плошчы горада. Наступным за Маладзечнам горадам у маршруце чэхаў будзе Гродна.

**Аддзел інфармацыі.**

## І ў Камарове Internet

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Камарова уведзеная ў дзеянне новая, электронная АТС. Жыхары вёскі і наваколля атрымалі магчымасць не толькі ўстанавіць тэлефоны, але і скарыстаць дадатковыя паслугі. У тым ліку, Internet.

Гэта ўжо другая электронная тэлефонная станцыя ў вёсках Мядзельшчыны (першая была ў вёсцы Нарач). Натуральна, мае такую і Мядзел.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 22 ліпеня**

**Мінск**

14 - 20°С (уначы)
24 - 29°С (удзень)

**Вільня**

12°С (уначы)
24°С (удзень)

**Нядзеля, 23 ліпеня**

**Мінск**

15 - 18°С (уначы)
24 - 29°С (удзень)

**Вільня**

13°С (уначы)
24°С (удзень)

# Трымайся, кароўка!

**З сенам вельмі цяжка. Не спрыяе надвор'е. Апошнія дні цяжка было знайсці "акенца", калі б паказалася сонейка, – прасушыць сена. Нават на азяродах яно не заўсёды сохне. Кароўкам зноў будзе нялёгка.**

Валянціна Балаш, сакратар Сырмежскага сельсавета на Мядзельшчыне, лепшы здатчык малака ў акрузе – 7 тон здала ад трох сваіх кароў – ведае цану кожнаму кілаграму сена, радасці ад надвор'я не выказвае: травы лепшыя, чым летась, не так павыгаралі, але ўсё адно слабаватыя. Пакуль няшмат сена нарыхтавалі, ды і рагулі ўжо дзве засталіся.

Між тым, разумеючы людскія клопаты, у некаторых гаспадарках (маю на ўвазе калгасы і саўгасы), іх кіраўнікі паступіліся грамадскім, каб выратаваць людское. Такая практыка не заўсёды віталася кіраўніцтвам. Зато людзі аддадуць належнае такому старшыні ці дырэктару.

У Астравецкім раёне скошана 25% ад неабходнага. Усяго 4616 тон. У калгасе імя Чапаева накошана 640 тон. І большасць – 264 тоны – аддадзена калгаснікам. За выпалатыя калгасныя буракі, здадзенае малако. Прама ў валках. Палова ад нарыхтаванага падзелена між сялянамі ў калгасе "Радзіма". У Кямелішках амаль увесь першы ўкос будуць спажываць кароўкі з сялянскіх падворкаў.

Селянін не забыўся і на сваю касу. Нakляпаная, яна не заржавее пад страхой. Але добра, што многія з начальнікаў цяпер разумеюць, што калгаснік таксама чалавек.

**Мікола ГАЙДУК, Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота IREX/ProMedia.

Кожную пагодную хвіліну карыстаюць сяляне на Ашмяншчыне.

# Абласны кірмаш «Маладзечна–2000»

**МАЛАДЗЕЧНА. Можна гаварыць пра несвоечасовасць кірмашоў, якія сёлета ідуць па Мінскай вобласці (нядаўна прайшлі ў Салігорску і Барысаве), але немагчыма адмаўляць тое, што ў Маладзечне ў мінулую суботу прайшло свята. Продкі (яшчэ, прынамсі, і бацькі) нашыя хадзілі на кірмашы, як на сапраўдныя народныя святы. Маладзечна паказала, што кірмашовыя традыцыі можна і патрэбна аднаўляць.**



Фота Андрэя Каскіна.

Атмасферу даўнейшых кірмашоў арганізатары падтрымлівалі старанна.

Дзень напярэдадні яго (самы гарачы ў плане падрыхтоўкі) і непасрэдна правядзенне мерапрыемства прайшлі пад акампанемент дажджу. Прычым, калі ў суботу ад раніцы дождж толькі імжэў, то ў разгар кірмашу ліў, як з вядра. А людзей на цэнтральных вуліцах горада было шмат і кожны адшукваў для сябе нешта цікавае і карыснае.

Разнастайныя прамысловыя тавары, шашлыкі, "пальцам пханыя" кілбасы, нарачанская юшка, салдацкая каша – былі б толькі грошы.

Заканчэнне на 3-й стар.

■ НАШ РЭГІЕН

# Крывічы

Крывічы – мястэчка прыгожае, асабліва вясной. Але мясцовая моладзь не надта каб моцна жадае тут застацца: з 35 выпускнікоў, якія сёлета скончылі Крывіцкую СШ, усе пастпаюць. Трэцяя частка выпускнікоў бачыць сябе навучэнцамі маладзечанскіх навучальных устаноў (8 чалавек мараць вучыцца ў медвучылішчы, 4 – ва ўлікова-планавым тэхнікуме). У ВНУ паступае толькі пятая частка выпускнікоў.

– Хутка ў Крывічах вучыцца не будзе каму, – расказвае дырэктар мясцовай СШ **Генадзь Скурко**, – у падрыхтоўчы клас падалі заявы на паступленне ўсяго 13 чалавек.

Адзін відавочны недахоп Крывічоў: з 10 гадзін раніцы і да 5 вечара пасёлак застаецца ў поўнай ізаляцыі. Да бліжэйшага населенага пункта можна дабрацца ці на веласіпедзе, ці на аўтамабілі, ці на сваіх дваіх (марафонцаў-аматараў у той дзень не назіралася).

З аднаго боку, невялікая колькасць аўтамашын сведчыць пра невысокія заработкі асноўнай часткі крывічан. Зразумела, у мясцовым калгасе шмат не атрымаеш. Гавораць, дрэваапрацоўчы камбінат крыху падымаецца. З другога боку, у мястэчку добрае экалагічнае становішча.

**Крывічы – гарадскі пасёлак у Мядзельскім раёне на рацэ Сэрвач. Знаходзіцца за 39 кіламетраў ад Мядзела, 139 кіламетраў ад Мінска, 3 – ад чыгуначнай станцыі Крывічы на лініі Маладзечна–Полацк. 1,6 тысяч жыхароў (1998).**

**З 1776 года – мястэчка Ашмянскага павета Віленскага ваяводства, з 1793 – у Расійскай імперыі, цэнтр воласці Вілейскага павета. З 1921 – у Польшчы, з 1939 – у БССР, у 1940–1962 – цэнтр Крывіцкага раёна, з 28 чэрвеня 1958 – гарадскі пасёлак, з 1962 – у Мядзельскім раёне.**

**Беларуская энцыклапедыя, т. 8. Мн., 1998.**

### Хаця яно паціху старэе...

У першую чаргу, Крывічы адметныя тым, што тут працуюць дзесятак-другі майстроў, якія займаюцца разьбой па дрэве, вязаннем кручком, керамікай. Цяпер майстры прымаюць удзел у раённых мерапрыемствах. Усе сувеніры, што ўручаюцца лаўрэатам рэспубліканскіх святаў, якія праходзяць штогод на Нарачы, зробленыя рукамі крывіцкіх майстроў.

Але галоўнае багацце – гэта людзі. Знаёмцеся: **Раман Шаша**. У Амерыцы яго назвалі б "чалавек, які зрабіў сам сябе". З мясцовых, шмат дзе пабываў і паездзіў. Як сам гаворыць, у юнацтве давялося паспытаць рамантыкі: працаваў за Уралам, у Якуціі, Сібіры, Комі АССР.

Лепш за ўсё пра чалавека гавораць яго справы. Лічыце: першыя выстаўкі майстроў арганізаваў менавіта ён. І аб'яднаў іх у адзіны Цэнтр таксама Раман Шаша. Раней быў тут клуб, які ў 1996 годзе атрымаў званне "народны", а з 1 мая мінулага года на яго базе з'явіўся Цэнтр, які і ўзначаліў Раман Шаша. Цяпер адкрылі керамічны цэх і спрабуюць прыстасавацца да рыначных адносін вырабам і продажам сувеніраў.

Рамана ведае ў пасёлку і малы, і вялікі. Чалавек, які валодае вялізнай энергетыкай і ўплывам на навакольнае асяроддзе.

Яшчэ адна адметная рэч – школа ўсходніх адзінаборстваў "В'ет-Во-Дао", якую яшчэ 12 год таму заснавалі Раман і мясцовы ксёндз **Франц Грынкевіч**, які аказваў істотную спонсарскую дапамогу. Зборная школы даўно і з поспехам выступае на спаборніцтвах у Расіі, на Украіне, у Польшчы. Дарэчы, Раман Шаша з'яўляецца ўладальнікам чорнага пояса.

Акрамя гэтага, ён заводзіць мясцовых падлеткаў на дыскатэках у мясцовым Доме культуры. Відэадыскатэкі (якіх няма нават і ў Маладзечне) праходзяць "без шуму і пылу". Інакш і не можа быць, бо паспрабуйце кагосьці зачапіць, калі парадак ахоўваюць "хлопчыкі" са школы "В'ет-Во-Дао"! І школе добра (15% ад продажу білетаў ідзе ёй), і парадак падтрымліваецца.

Давялося пазнаёміцца з, бадай, самым легендарным разьбяром па дрэве **Пятром Забіякам**. У яго ёсць калекцыя драўляных скульптур вядомых людзей. Каб патрапіць у экспазіцыю, трэба чымсьці праславіцца ў вачах майстра. Напрыклад, **Валерыі Навадворскай** аказалася недаравальным выказванне ў адрас пенсіянераў.

Да роспачы Рамана Шашы і большай часткі прыхільнікаў мастацтва, некаторыя вырабы "паехалі" да дачкі ў Санкт-Пецярбург, таму ў Крывічах яны застануцца толькі на відэакасетах.

Гэта яшчэ адна задумка Рамана. Ён здымае на відэа ўсе вырабы і плануе стварыць відэатэку для маладога пакалення, бо нейкая частка не зможа захавацца.

Падтрымлівае традыцыі і маладое пакаленне. Ёсць у пасёлку дапаможная школа-інтэрнат для дзяцей з асаблівасцямі развіцця. Добрую справу робіць **Ірына Бесарабава**, якая вядзе гурткі рукадзелля. Вырабаў, зробленых рукамі дзяцей столькі, што адкрылі цэлы музей. Сыравінай з'яўляюцца салома, збожжа, нават з карчоў можна зрабіць прыгожую рэч.

Яшчэ адзін від мастацтва вядомы пакуль толькі ў Крывічах – роспіс алеем на... звычайных талерках. Яго заснавальнікам з'яўляецца мастак **Мікалай Харчанка**.

Мастак вядзе гурткі жывапісу, дзе, у тым ліку, вучыць маладых крывічан і гэтаму мастацтву, таму гэты від пускае трывалыя карані ў Крывічах.

Вось так цяпер жыве старажытнае мястэчка, якое толькі за апошнія 200 год уваходзіла ў склад чатырох розных дзяржаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Ветэран вайны, разьбяр па дрэве Пётр Забіяка (злева) і Раман Шаша, чалавек, які шмат дзе пабываў.



Царква ў Крывічах.



Тут праводзіліся першыя ўрокі школы "В'ет-Во-Дао".



Асноўны від транспарту ў Крывічах.



У Крывічах усё ёсць: чыстае паветра, рэчка пад бокам, жыві – не хачу.



На цэнтральнай вуліцы.



Мікалай Харчанка вядзе ўрок жывапісу.





Зразумела, палотны цяпер дарагія, таму выкарыстоўваюцца замест іх любыя падручныя сродкі. Глядзіцца даволі прывабна.

Фота Юрыя Карпіцкага.

# Абласны кірмаш «Маладзечна-2000»

Пачатак на 1-й стар.

На пяці пляцоўках дэманстравалі свае таленты самадзейныя артысты сталічнай вобласці. Экспазіцыі і выстаўкі, кніжны і школьны кірмаш, выстаўка—продаж кветак, паказ мадэляў адзення і прычосак "Чараўніцы Маладзечна" (госці з Мінска сцвярджаюць, што прайшоў ён на сталічным узроўні), святочны феерверк на заканчэнне...

Напярэдадні мерапрыемства розныя структуры выказвалі занепакоенасць і высвятлялі настрой людзей перад гэтым кірмашом. Сапраўды, цяжкавата ўспрымаць свята, калі зарплату ці не плацяць зусім, ці даюць 20—30 тысяч. Аднак сам кірмаш сумненні пахаваў: арганізавана было ўсё выдатна, "непатрэбных" думак не ўзнікала, бадай, ні ў кога.

Высока (нават у параўнанні з ранейшымі падобнымі святамі) ацаніў арганізацыю і старшыня Мінаблвыканкома **Мікалай Дамашкевіч** ("Такога нідзе не было!"). Невыпадкова па Маладзечне захадзілі чуткі пра магчымы пераход першага намесніка старшыні гарвыканкома **Яфіма Ідэльчыка** на павышэнне.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

## Гістарычная даведка

**Упершыню "узаконіў" правядзенне кірмашоў у Маладзечне кароль Аўгуст. 27 верасня 1757 года Маладзечна атрымала яго Прывілей, які дазваляў правядзенне ў мястэчку штогадовыя 4—тыднёвыя кірмашы. У тым дакуменце, выдадзеным паселішчу "на вечныя часы", сказана, што сюды "свабодна могуць прыязджаць усякай нацыі купцы і іншага саслоўя людзі прадаваць і абменьваць тавары, сумленна вяршыць іншыя справы і заключаць дамовы. Прычым, прыезджыя, тыя, хто прадае і выязджае, карыстаюцца аховай, якая забяспечваецца агульным законам".**


Фота Андрэя Касхіна.
Каларытная фігура на каларытным кірмашы.

■ КУЛЬТУРА

## Паездка краязнаўцаў па нашым краі

**МІНСК. 45 маладых краязнаўцаў з Мінска, Бабруйска, Оршы, а таксама пераможцы школьных беларусазнаўчых конкурсаў ажыццявілі паездку па памятных месцах нашага краю. Акцыя была арганізаваная пры падтрымцы грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», Цнянскай рады «Маладога фронту» (Мінск) і нефармальнай маладзёжнай плыні «Еўрапейскі шлях».**

Паводле слоў аднаго з ініцыятараў экскурсіі – краязнаўца, саліста Беларускай філармоніі Алеся Фралова, па шляху ў Гродзенскую вобласць удзельнікі акцыі наведалі магілу вядомай пісьменніцы Канстанцыі Буйло, а таксама касцёл у вёсцы Вішнева Валожынскага раёна, дзе вядзе службу выдатны дзеяч нацыянальнага адраджэння ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі. Потым краязнаўцы наведалі касцёлы ў Ашмянах і Гудагаі, выстаўку жывапісных работ таленавітага маладога мастака Алега Безляповіча і ўшанавалі памяць вядомага айчыннага падарожніка, дыпламата і даследчыка японскай гісторыі і культуры Іосіфа Гашкевіча.

Найбольш моцнае ўражанне на ўдзельнікаў экскурсіі, паводле слоў Фралова, зрабіў комплекс беларускіх магнатаў Абрамовічаў у вёсцы Варняны, у паркавай зоне якога на востраве Любові захавалася вежа-данжон — месца паломніцтва маладых; а таксама сядзіба вядомага мастака гэтага стагоддзя Марыяна Богуша-Шышкі ў Трокеніках і касцёлы ў вёсках Варона і Міхалішкі. Каля касцёла ў Гервятах краязнаўцы высадзілі прывезеныя з Мінска саджанцы кіпарысавікаў, якія ўпрыгожаць мясцовы парк, дзе расце мноства рэдкіх раслін.

**Па звестках БелаПАН.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## Вочная стаўка на рынку

**МАЛАДЗЕЧНА. На працягу чэрвеня ў мясцовае таварыства абароны спажыўцоў звярнулася са скаргамі 20 чалавек. 90% заяў зарэгістравана па пытаннях гандлёвага абслугоўвання.**

Тое, як важна мець гандлёвы чэк, пацвярджае наступны выпадак: у таварыства прыйшло пісьмо ад пенсіянеркі з Мінска, якая купіла на рэчавым рынку туфлі. Калі прыехала дадому, заўважыла, што туфлі бракаваныя. Чэка ці талона ёй не далі. Праз тыдзень яна прыехала сюды і звярнулася да прадаўца з просьбай памяняць тавар. Мужчына (звярніце на гэта ўвагу!) адмовіў, але прапанаваў абутак адрамантаваць. Пасля "рамонту" рэч лепшая не стала. Жанчына звярнулася да кантралёра, які назваў прозвішча прадаўца.

Але гэта толькі пачатак. Аказалася, што прадаўцоў з такім прозвішчам на рынку зарэгістравана двое і абедзве — жанчыны! Вось тут відавочная нестыкоўка, бо прадаваў абутак, як ужо гаварылася, мужчына. Ад адной з жанчын падазрэнні адпалі па дзвюх прычынах: яна гандлюе ў іншым месцы і не абуткам. Другая адмаўляецца ад абутку, кажа, што такой маркай яна не гандлюе, і дакументы гэта пацвердзілі.

Пытанне: а дзе мужчына? Прадавец №2 гаворыць, што гандлюе без чыёйсьці дапамогі.

Такім чынам, паслязаўтра на рэчавым рынку адбудзецца вочная стаўка мінчанкі і гандляра ў прысутнасці сведкаў.

Гэтага спажывецкага дэтэктыву магло б і не быць, калі б меўся талон, на якім указаныя асноўныя рэквізіты прадаўца і кошт тавару.

І яшчэ: лепш купляйце абутак па месцы жыхарства, каб не давялося некалькі разоў ездзіць на месца куплі з мэтай вярнуць свае грошы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 13 ліпеня | 20 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 715,00 руб. | 740,00 руб. |
| Нямецкая марка | 346,95 руб. | 350,15 руб. |
| Літ | 178,81 руб. | 185,05 руб. |
| Расійскі рубель | 25,63 руб. | 26,67 руб. |
| Злоты | 167,19 руб. | 170,76 руб. |
| ЕЎРА | 678,57 руб. | 684,83 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 980 руб. | 980 – 990 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.07 | 19.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1260 | 1250 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4500 | 4536 |
| Сасіскі, 1 кг | 1404 | 1508 |
| Рыс, 1 кг | 330 | 340 |
| Грэчка, 1 кг | 550 | 560 |
| Цукар, 1 кг | 400 | 450 |
| Алей, 1 л | 680 | 700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 380 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 270 | 265 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 250 | 260 |
| Лімоны, 1 кг | 980 | 1000 |
| Апельсіны, 1 кг | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 380 | 350 |
| Морква, 1 кг | 300 | 230 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 220 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 700 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1600 |
| Тварог, 1 кг | 450 | 500 |
| Малако, 1,5 л | 200 | 250 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 500 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 700 |
| Бульба маладая, 1 кг | 200 | 200 |
| Морква маладая, 1 пучок | 700 | 150 |
| Абрыкосы, 1 кг | 1000 | 1200 |
| Персікі, 1 кг | 1100 | 1200 |
| Маліны, малое вядро | 5000 | 7000 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 4000 | 5000 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1500 | 1500 |
| Агрэст, малое вядро | 3000 | 3500 |
| Чарніцы, малое вядро | 4000 | 4500 |
| Вішня, малое вядро | 3500 | 3000 |
| Сліва, малое вядро | | 2500 |
| Агуркі, 1 кг | | 350 |
| Памідоры, 1 кг | | 500 |

■ ДНІ



21 ліпеня — **95 год** з дня нараджэння **Янкі Бобрыка** (Іван Іванавіч, 1905—1942), беларускага паэта, кінакрытыка.

25 ліпеня — **Дзень пажарнай службы**

**160 год** з дня нараджэння **Ю. Крачкоўскага** (1840—1903), беларускага фальклярыста, этнографа, гісторыка.

27 ліпеня — **у 1990 годзе** прынятая **Дэкларацыя аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі**.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## 68 цялятаў згарэлі ў выніку пажару ў вёсцы Семернікі

ВАЛОЖЫН. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, пажар у цялятніку, які належыць калгасу імя К. Маркса, успыхнуў каля 4 гадзін раніцы 15 ліпеня. Да моманту прыбыцця падраздзялення МНС будынак быў поўнасцю ахоплены агнём. У выніку пажару загінулі ўсе цяляты, якія былі там, знішчаны дах, пашкоджаныя сцены.

Пры расследаванні абставінаў справы і далейшым падліку загінуўшых жывёл высветлілася, што некалькі з іх зніклі. Мясцовыя электрыкі сцвярджаюць, што загаранне электраправодкі прычынай пажару з'яўляцца не можа, бо доўгі час аб'ект быў абясточаны.

На месцы пажару працуе аператыўная група з работнікаў МНС Мінскай вобласці і раённага аддзела ўнутраных спраў, якая высвятляе прычыну пажару і ўстанаўлівае памер урону.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН, аддзел інфармацыі.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Злачыннасць у лічбах

**СМАРГОНЬ. У раёне за I паўгоддзе здзейснена 264 злачынствы, што на 26 або 8,4% менш за мінулагоднія паказчыкі. Раскрытыя ўсе цяжкія злачынствы: забойствы, цяжкія цялесныя пашкоджанні, згвалтаванні, махлярствы, катаванні, грабяжы, разбоі, дарожна—транспартныя здарэнні са смяротным зыходам.**

Здзейснена 11 краж дзяржуласнасці, раскрывальнасць іх склала 18,2%. Пры гэтым усе 5 краж у сельскай мясцовасці (кражы з магазінаў) не раскрытыя.

Здзейснена 90 краж асабістай маёмасці, тут раскрывальнасць склала 83,3%. Каля 58% склалі кражы з кватэр. Асноўны прадмет замахаў – грошы, прамтавары, тэле—радыё—відэаапаратура. 41% краж быў здзейснены, калі злачынцы мелі свабодны доступ да прадмета замахаў.

Асноўная колькасць злачынстваў здзейсненая ў панядзелак і чацвер.

264 злачынствы здзейснілі 116 чалавек, сярод якіх 14 жанчын і 19 непаўналетніх. Сярод злачынцаў 32 раней здзяйснялі злачынствы, 30 былі ў нецвярозым стане, 8% – іншагародния.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 16596 чалавек, у тым ліку, 12116 чалавек – за парушэнні правілаў дарожнага руху (насельніцтва раёна складае 61,5 тысячы чалавек, у тым ліку, у горадзе жыве 36,2 тысячы чалавек).

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

## Пракуратура Астравецкага раёна ўзбудзіла крымінальную справу па факце забойства жыхара Грузіі

АСТРАВЕЦ. 29 красавіка ў лесе каля вёскі Лоша знайшлі труп невядомага мужчыны. З-за паўзгніўшага стану цела ўстанавіць прычыну смерці падчас судмедэкспертызы было немагчыма.

Роўна праз два месяцы, 29 чэрвеня, у пракуратуру Астравецкага раёна паступіла хадайніцтва Вільнюскай раённай пракуратуры аб аказанні прававой дапамогі па крымінальнай справе, згодна з якой у лютым 1999 года двое жыхароў Літвы каля вёскі Шумск Вільнюскага раёна незаконна перавялі на тэрыторыю Беларусі жыхара Грузіі. Па дарозе падчас сваркі адзін з суправаджаючых ударыў яго два разы нажом у шыю. Забраўшы рэчы і каштоўнасці забітага, труп якога і быў знойдзены 29 красавіка, злачынцы вярнуліся ў Літву.

Цяпер яны арыштаваныя па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса Літоўскай Рэспублікі і знаходзяцца пад вартай.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

## Слоік да слоіка


Фота IREX/ProMedia.

АСТРАВЕЦ. Марыя Аляхновіч працуе малаказборшчыцай ў калгасе "Чырвоны кастрычнік". Жыве ў Альгінянах, а збірае малако не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх Кілёйцях і Ізабеліне. Бывае, па 400 літраў за дзень збярэ. Канечне, 65 рублёў для здатчыка – не бог ведае якія грошы, але ж да базара ў Смаргоні ці Маладзечне не рукой падаць. Урэшце, малако зборшчыкі забіраюць ледзь не з-пад каровы. Да кожнага падворка пад'едзе Марыя, слоўцам перакінецца... А малако – справа ў Аляхновічаў сямейная. Віктар, муж, працуе пастухом. Цягавітыя нашы землякі.

■ ВЫБАРЫ - 2000

# Дэмакратычныя выбары ў краінах пераходнага перыяду

Усе краіны, што ўтварыліся ў выніку распаду Савецкага Саюза, зрабілі выбар на карысць прэзідэнцкай сістэмы структуры сваіх дзяржаў, у выніку чаго баланс паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі мае значную перавагу на карысць выканаўчай. У выпадку непагаднення з заканадаўчай уладай або ў выпадку адсутнасці партый большасці ў парламенцкіх інстытутах прэзідэнцкая ўлада можа выдаваць указы. Партыі–паслядоўнікі былой КПСС маюць перавагу, таму што сеткі іх арганізацый ахопліваюць усю краіну, але ім не хапае разумення плюралістычнай грамадзянскай супольнасці і лідэрства для пераходу краіны на рынячную эканоміку. З іншага боку, дэмакратычным партыям складана наладжваць свае структуры па ўсёй краіне і фарміраваць адзіную пазіцыю для вырашэння найбольш вострых праблем грамадства. Аднак у некаторых выпадках развіццё такіх дэмакратычных палітычных партый ускладнена з–за дамінуючай прэзідэнцкай сістэмы. Менавіта такая сітуацыя склалася ў Беларусі з–за канстытуцыйнага канфлікту, які ўзнік у сувязі з супярэчлівым рэферэндумам (лістапад 1996 года) па двух праектах змянення канстытуцыі 1994 года. Прэзідэнт Лукашэнка аб'явіў, што вынікі рэферэндуму з'яўляюцца абавязковымі, распусціў Вярхоўны савет 13–га склікання і назначыў 110 членаў выбранага, але распушчанага пасля рэферэндуму савета, дэпутатамі наваствораннай Палаты прадстаўнікоў двухпалатнага парламента – Нацыянальнага сходу.

Як вядома, на 15 кастрычніка 2000 года назначаныя парламенцкія выбары, на якіх палітычныя партыі, у прыватнасці, тыя, чыя праграма заснаваная на канстытуцыі 1994 года, маглі б мець добрыя шанцы, але толькі пры ўмове, што будуць дасягнутыя значныя паляпшэнні ў выбарчай сістэме і рамачныя ўмовы. Мадальнасць (сутнасць, прырода) выбараў павінна быць такая, каб яны маглі стаць сродкам вырашэння канстытуцыйных супярэчнасцяў 1996 года. Ініцыіраваць і садзейнічаць дыялогу паміж супрацьлеглымі бакамі – адна з задач Кансультатыўна–назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі, якая была створаная ў 1997 годзе з мэтай аказання дапамогі ў развіцці дэмакратычных інстытутаў і назірання за выкананнем краінай яе міжнародных абавязкаў у галіне праў чалавека.

28 чэрвеня 2000 года ў Вене прадстаўнікі еўрапейскіх інстытутаў – АБСЕ (Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе), Савета Еўропы і Еўрасаюза, а таксама амерыканскай арганізацыі па выбарчых сістэмах (IFES) – абмяркоўвалі, які прагрэс быў дасягнуты у Беларусі ў галіне задавальнення міжнародных крытэрыяў для накіравання міжнародных назіральнікаў на будучыя парламенцкія выбары ў Беларусі. Гэтыя пытанні разглядаліся ў час першай Тэхнічнай канферэнцыі ў красавіку бягучага года. Удзельнікі ўзгаднілі Палажэнні, якія вызначаюць крытэрыі ў чатырох асноўных галінах, дзе неабходна дасягнуць прагрэсу, пераважна, шляхам дыялогу паміж урадам і апазіцыяй, што дазволіла б прыняць станоўчае рашэнне па накіраванні міжнародных назіральнікаў у РБ. Гэтае рашэнне, як было сказана, будзе прынятае ў святле далейшага развіцця падзей у жніўні 2000 года.

Гэтыя чатыры важныя крытэрыі ўключаюць:

– празрыстасць выбарчага працэсу, членства давераных асоб палітычных партый у Цэнтральнай выбарчай камісіі і ніжэйшых камісіях, а таксама атрыманне належным чынам завераных дакументаў падліку галасоў і вынікаў галасавання;

– рэгулярны доступ палітычных партый да электронных СМІ;

– значныя функцыі новага парламента;

– меры ўзаемнага даверу, уключаючы значныя перамовы паміж урадам і апазіцыяй па "канстытуцыйных супярэчнасцях" (гэты тэрмін выкарыстоўваўся у Дэкларацыі Стамбульскага саміта 19 лістапада 1999 года ў параграфе па Беларусі) і спыненне праследавання палітычных апанентаў у судовым парадку.

З нагоды сесіі ініцыіраванага ўрадам грамадска–палітычнага дыялогу з удзелам прэзідэнта Лукашэнкі 30 мая пасол Ханс–Георг Вік, кіраўнік Кансультатыўна–назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі, абазначыў гэтыя крытэрыі як важныя вехі для прыняцця рашэння еўрапейскімі міжнароднымі інстытутамі аб удзеле або няўдзеле міжнародных назіральнікаў у выбарах.

Само па сабе міжнароднае назіранне не з'яўляецца актам прызнання дэмакратычнасці характару існуючай палітычнай структуры ў Беларусі.

Улічваючы агульную палітычную структуру беларускіх дзяржаўных інстытутаў на сённяшні дзень, характарыстыка гэтай структуры, якая найбольш кідаецца ў вочы, – гэта, вядома ж, канцэнтрацыя ўлады і кантролю над заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладай у адных руках, а іменна – у руках прэзідэнта. Характэрна, што бюджэт прэзідэнцкай адміністрацыі нават не выносіцца на пільны разгляд парламента.

Ключавыя пытанні для міжнароднай ацэнкі сітуацыі ў Беларусі напрамую звязаныя з перамовамі паміж урадам і апазіцыяй: базай апошніх з'яўляецца Вярхоўны савет 13–га склікання – дэмакратычна легітымны і, такім чынам, міжнародна прызнаны парламенцкі орган. Пры дапамозе такіх кантактаў можна дасягнуць нацыянальнага кансэнсусу ў краіне між тымі, хто падтрымлівае сапраўдныя ліберальныя і дэмакратычныя рэформы, і тымі, хто падтрымлівае аўтарытарныя структуры. Такога роду перамовы вяліся пры дапамозе КНГ АБСЕ, у выніку чаго восенню 1999 года было дасягнута пагадненне на доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ. На жаль, урад у хуткім часе дэзавуіраваў гэтае пагадненне, чым зноў выклікаў сумненні адносна свайго жадання пачаць сур'ёзныя перагаворы з апазіцыяй.

Відавочна, што існуюць розныя стратэгіі работы ўнутры ўрада і прэзідэнцкай адміністрацыі: для адной групы рашэннем існуючай эканамічнай і грашовай сітуацыі ў краіне, што пастаянна пагаршаецца, можа быць толькі інтэграцыя з з Расійскай Федэрацыяй. Такі ход падзей і дзеянняў можа быць узяты пад сумненне, калі парламенцкія, а пазней прэзідэнцкія выбары прывядуць на палітычную арэну Беларусі апанентаў падобнай стратэгіі. Іншая школа думкі, у якой ёсць прыхільнікі ўнутры афіцыйных структур краіны, мае на мэце збалансаваныя стасункі як з Расійскай Федэрацыяй, так і з Еўрасаюзам, і такім чынам імкнецца ініцыіраваць абмежаваныя дэмакратычныя рэформы для таго, каб расшырыць палітычную базу ўрадавай палітыкі ў краіне і скончыць з непаразуменнямі паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, а таксама Саветам Еўропы, Парламенцкай Асамблеяй АБСЕ, ЗША і Канадай. Справядлівыя і дэмакратычныя ўмовы будучых выбараў бачацца асновай дасягнення гэтай мэты. Вяртанне ў Беларусь значнай палітычнай прысутнасці членаў Еўрасаюза, яго структур і праграм, а таксама эканамічнага супрацоўніцтва пры дапамозе прамых інвестыцый Захаду ў Беларусь можа значна ўзмацніць шанцы на прасоўванне дэмакратычных і ліберальных рэформаў.

Першапачатковыя рэформы павінны быць накіраваныя на тое, каб выключыць магчымасць маніпуляцый і фальсіфікацый у ходзе выбараў, забяспечыць выбіраемы парламент значнымі паўнамоцтвамі, усталяваць клімат даверу – усё гэта можа быць дасягнута ў выніку адпаведных дзеянняў з боку ўрада. Відавочна, што крымінальнае праследаванне палітычных апанентаў, такіх, як былы прэм'ер–міністр М. Чыгір, палітычны лідэр М. Статкевіч або В. Шчукін, з'яўляецца непрымальным і неэфектыўным прыёмам у ходзе правядзення грамадскага дыялогу ў краіне.

Палітычнай апазіцыі давялося прайсці доўгі шлях, перш чым прыняць бачанне і стратэгію міжнароднага згуртавання, прадстаўленага ў Беларусі, у першую чаргу, Кансультатыўна–назіральнай групай АБСЕ, рэгулярнымі візітамі Парламенцкай тройкі еўрапейскіх інстытутаў і, у прыватнасці, Адрыяна Северына, Старшыні Рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ.

Спачатку лічылася магчымым дасягнуць пагаднення з прэзідэнтам аб вяртанні да канстытуцыі 1994 года. Тым не менш, прадпрынятыя з гэтай мэтай у 1997 годзе спробы міжнародных пасрэднікаў аказаліся беспаспяховымі, што прывяло да ўвядзення значных палітычных і эканамічных санкцый. Яшчэ адна беспаспяховая стратэгія была распрацаваная ў Беларусі самой апазіцыяй і меркавала навязаць краіне правядзенне альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў, а потым ужо дабівацца іх міжнароднай падтрымкі. Такая тактыка дзеянняў магла б прывесці да падзення міжнароднага прызнання Лукашэнкі, які страціў сваю дэмакратычную легітымнасць у сярэдзіне ліпеня 1999 года ў сувязі з заканчэннем тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў у адпаведнасці з канстытуцыяй 1994 года. (У выніку ўнесеных у 1996 годзе змяненняў у Канстытуцыю РБ, як вядома, тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў быў падоўжаны яшчэ на 2 гады). У выніку тая тупіковая сітуацыя, якая склалася паміж дзвюма антаганістычнымі сіламі, захавалася. Сёння выйсце з гэтага тупіка магчыма ці праз прымяненне сілы, ці шляхам перамоў, якія грунтуюцца на агульных мэтах і задачах: правядзенне свабодных і справядлівых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў адпаведна восенню 2000 года і восенню 2001 года. Такі ход думкі, такая стратэгія прэваліруе, хаця пастаянна бярэцца пад сумненне з–за няпэўнасці намераў членаў урада Лукашэнкі.

2 ліпеня на "З'ездзе дэмакратычных сіл Беларусі" была прынятая рэзалюцыя, якая звязвае ўдзел у выбарах з выкананнем чатырох умоў:

– празрыстасць выбарчага працэсу;

– рэгулярны доступ да СМІ;

– паўнамоцтвы новага парламента;

– значны "перыяд міру".

Час пакажа, які з бакоў пераможа, – прыхільнікі няўдзелу ў парламенцкіх выбарах па прынцыповых прычынах, якія, аднак, гатовыя ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах у 2001 годзе, ці прагматыкі, што прымуць рашэнне аб удзеле ў залежнасці ад таго, наколькі будуць выкананыя ўмовы аб дэмакратычнасці і адкрытасці. У гэтай сувязі праходзяць шырокія дыскусіі з мэтай фарміравання альянсаў ледзь не ва ўсіх акругах.

29 ліпеня 2000 года ў Беларусі адбудзецца "Трэці Усебеларускі З'езд" для таго, каб мабілізаваць – на беспартыйнай аснове – народную падтрымку незалежнасці ў краіне, што, падобна, цяпер знаходзіцца пад пагрозай у выніку Саюзнага дагавору, падпісанага паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю. Кангрэс можа перарасці ў платформу для кандыдатаў у наступных прэзідэнцкіх выбарах.

Да гэтага часу не адбылося ніякага грамадскага абмеркавання па нацыянальным або міжнародным значэнні свабодных і справядлівых выбараў. Калі б такія ўмовы і прымальная празрыстасць выбарчага працэсу, уключаючы наяўнасць сетак грамадскіх і міжнародных назіральнікаў, былі б створаныя, тады кандыдаты маглі б уступіць у палітычнае спаборніцтва за давер выбаршчыкаў. У гэтай сувязі не лішнім будзе нагадаць, што апазіцыйныя палітычныя партыі, якія ўваходзяць у Кансультатыўны савет, атрымалі каля 50% галасоў у час апошніх парламенцкіх выбараў 1995/96 г. Калі б падобнае паўтарылася ў ходзе парламенцкіх выбараў, што маюць адбыцца, нават калі б гэтыя партыі не атрымалі адпаведнай колькасці месцаў у парламенце, такі вынік з'явіўся б выразным палітычным пасланнем для выбаршчыкаў і ўсяго свету аб неабходнасці праводзіць беларускім урадам больш збалансаваную знешнюю і ўнутраную палітыку, забяспечыць больш дэмакратыі. Такі вынік яўна пераважыў бы той стрымліваючы фактар, які разглядаецца многімі краінамі і шэрагам палітычных груп, – магчымае атрыманне ўрадам Лукашэнкі пэўнай ступені дэмакратычнай легітымнасці. Кампанія, заснаваная на такой стратэгіі, надала б самую вялікую ўвагу заваяванню колькасці галасоў на карысць дэмакратычнага блока, і не надта вялікае таму, колькі месцаў у парламенце яны атрымалі, хаця апошняе, зразумела ж, важна для фарміравання будучай унутранай палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Парламенцкая тройка, прадстаўленая ў час свайго апошняга візіту Еўрапарламентам і Парламенцкай асамблеяй АБСЕ, праінфармавала ў заключнай заяве для прэсы ад 22 чэрвеня 2000 года аб тым, што пры абставінах, якія склаліся, Парламенцкая тройка не змагла б даць рэкамендацыю на накіраванне міжнародных назіральнікаў. Яшчэ многае павінна быць зроблена, каб задаволіць мінімальныя патрабаванні для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў у Беларусі. Некаторыя нявырашаныя пытанні, звязаныя з празрыстасцю выбарчага працэсу, такія, напрыклад, як уключэнне давераных асоб апазіцыйных партый у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі, іншыя пытанні, звязаныя з наладжваннем "перыяду міру". Праяўленне рэальнай гатоўнасці задаволіць гэтыя ўнутраныя і міжнародныя патрабаванні будзе з'яўляцца вызначальным фактарам у рашэннях урада адносна палітычнай і эканамічнай арыентацыі Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне.

**Ханс-Георг Вік**
**Пасол**
**Кіраўнік КНГ АБСЕ**
**ў Беларусі**

---

Беларуская Асацыяцыя журналістаў выказвае трывогу ў сувязі са зніkненнем **Змітра Завадскага** і патрабуе ад уладаў тэрміновага расследавання гэтага здарэння.



**З моманту знікнення нашага калегі Змітра Завадскага мінула**
**14 дзён**

---

■ КАНТАКТЫ

## Нашы на парафіядзе

**Нядаўна ў Варшаве ордэн айцоў–піяраў і Міністэрства адукацыі Польшчы ладзілі 12-ы па ліку незвычайны турнір – парафіяду дзяцей і моладзі еўраейскіх краін. Былі там спаборніцтвы па розных відах спорту: шмат лёгкай атлетыкі, гульнявыя віды, шахматы і шашкі. Таксама былі мастацкія, артыстычныя конкурсы, на веданне Бібліі. Упершыню бралі ўдзел у парафіядзе дзеці з Мядзельшчыны – 15 міністрантаў са Свірскай, Засвірскай, Шэметаўскай парафій, з імі дзве выхавальніцы. Адна з іх, Аня Трошына, і расказвае:**

– Мы вельмі здзівіліся, калі атрымалі запрашэнне на парафіяду. Гэта было для нас неспадзяванкай. Праходзіла парафіяда на тэрыторыі акадэміі фізвыхавання. Кожны дзень пачынаўся пабудкай у 6 гадзін, пасля святая імша, снядaнак, затым спаборніцтвы і розныя мерапрыемствы. Іх шмат было, але так добра ўсё распланавана, што дзеці не стамляліся. Некалькі добрых месцаў занялі нашыя дзеці ў спартыўных гульнях. У конкурсах баяліся ўдзельнічаць – сарамлівыя. Але малюнак Наташы Руткевіч са Свіра адзначылі як адну з лепшых работ.

**– Што найбольш уразіла?**

– Тое, што на парафіядзе не было "лішніх" дзяцей. Ты не можаш у спорце – пакажы, што можаш розумам узяць. Нават за ўдзел маглі адзначыць, толькі май смеласць. Удзельнічалі і дзеці на інвалідных калясачках, да іх была вялікая ўвага. Узнагароды ўручалі чэмпіёны Еўропы, пераможцы Алімпіяд. І атмасфера неабыякавасці вакол – мы сябе добра пачувалі.

**– Што цікавага было па–за спаборніцтвамі?**

– Удзельнікі атрымалі права бясплатнага праезду па Варшаве. У нас былі экскурсіі ў паляўнічы музей, Каралеўскі замак, па старой Варшаве. Па заканчэнні парафіяды засталіся на адпачынак у Польшчы, і тут было шмат экскурсій – Гданьск, Чэнстахова, Плоцк.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

---

■ ПРЫНОСІМ ПРАБАЧЭННІ

У публікацыі з мінулага нумара "РГ" "Адгукніцеся, калі ласка" па віне рэдакцыі допушчана памылка. Подпіс да фатаграфіі трэба чытаць: Фота з альбома Юрыя Будніка. Паўліна (Фаміна) Буднік з сынам Юрыем напярэдадні вайны. Вілейка.

Прыносім свае прабачэнні Юрыю Яфрэмавічу Будніку, а таксама усім чытачам газеты.

**Рэдакцыя.**

